

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№2 (274) СТУДЗЕНЬ 2020 ГОД


СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ЯК ПРАЦУЕ АГРАБІЗНЭСОВЕЦ?

**На пачатку незалежнасці Беларусі кіраўнікі шукалі эфектыўную сістэму сельгаскагаспадарчай вытворчасці. Што было рабіць у тых умовах: або адразу рэзаць ці наадварот – узбуйняць калгасна-саўгасныя землі, рабіць стаўку на прыватную, дзяржаўную ці змешаную ўласнасць? Пры зсім тым, што ў тыя часы, як ніколі была магчымасць з дапамогай дзяржавы набыць тэхніку, атрымаць крэдыты і зямлю.**

Прынамсі, добраахвотнікаў набыць кавалак зямлі на Шумілішчыне знайшліся лічаныя адзінкі – за савецкім часам у людзей наўпрост знішчылі пачуццё гаспадара. Пасля таго, як прайшла першая хваля аматараў фермерскай гаспадаркі, засталіся самыя адданыя гэтай справе. І сярод якіх – кіраўнік сялянска-фермеркай гаспадаркі "Крыніца" Юрый Сямёнаў.

Юрый Віктаравіч стаў фермерам ў 1991 годзе. Аграбізнесам пачаў займацца ў ліку першых не толькі ў Шумілінскім раёне, але і на Віцебшчыне. Напачатку яму выдзелілі 54-гектары зямлі, у склад якіх уваходзілі 46 гектараў раллі. Варта адзначыць, што тады фермерам вылучаліся далёка не лепшыя ўчасткі. Праз некаторы час сельскі прадпрымальнік зразумеў, што зямлі трэба ўзяць болей, таму і зацвердзіў новы бізнес-план. Давялося вырошчваць і бульбу, і зерневыя, нават лекавыя травы – вырошчваў аптэчны рамонак, валяр'яну, сардэчнік, календулу. Безумоўна, яго справы ішлі лепей, чым у калгасаў. Інакш, мякка кажучы, яму не прапанавалі б узяць "у нагрузку" мясцовы калгас з характэрнай развай "Ленінскі прызыў", які ўшчэнт збанкрутаваў, а заробкі не плацілі па 3-4 мес. Да таго ж, фермеру давялося яшчэ і сплочваць дзяржаве калгасныя даўгі (!)

Утрымаць "аб'яднаную" гаспадарку з калгаснай "спадчынай" удалося дзякуючы коштам назапашаных уласных сродкаў, карэкціроўкай структуры пасяўных плошчаў, укараненнем новай спецыялізацыі. Але выратавала галоўнае – гаспадарская цяга да зямлі, асабістае жаданне самарэалізавацца ў жыцці на вёсцы, умацоўванне вытворча-тэхналагічнай дысцыпліны.

На сённяшні дзень «Крыніца» мае 3291 гектар сельгасугоддзяў, з іх 2287 гектараў – ралля. Праўда, па сучасных мерках сельгаспрадпрыемства невялікае, але як фермерская гаспадарка больш-менш важкая. Да вытворчасці тут комплексны падыход: жывёлагадоўля, (без гэтай галіны немагчыма арганіка, а малако дае неблагі прыбытак), насенная і харчовая бульба, а таксама эліта зернебабовых культур. Упершыню ў вобласці на прамысловай аснове два гады фермер вырошчваў сою. А яшчэ «Крыніца» вядома як элітная гаспадарка па вытворчасці крыжакветных культур. Каля 40 працэнтаў яравога рапсу, напрыклад, у рэгіёне высейваюць яго насеннем.

Зараз старшыня савета Беларускага грамадскага аб'яднання фермераў і кіраўнік ФХ «Крыніца» Шумілінскага раёна Юрый Сямёнаў перакананы: "Па сутнасці, усе нацыянальныя сельгасвытворцы, па-за залежнасці ад формы ўласнасці, сутыкаюцца з аднымі і тымі ж праблемамі: дыспарытэтам цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю, праблемай збыту, кадравым пытаннем, праблемамі экспарту і дэмпінгу і многімі іншымі. І толькі каля 10 адсоткаў – праблемы спецыфічна фермерскія. Таму наша пазіцыя такая – мы павінны працаваць не замест, а разам".

Дарэчы, найбуйнейшае ў Віцебскай вобласці фермерская гаспадарка «Крыніца» Юрыя Сямёнава цяпер забяспечвае каля 20 адсоткаў (!) падатковых паступленняў у мясцовы бюджэт.

Сёння ўпэўнена можна сказаць, што яго аграбізнес сфармаваўся як рух, у якім засталіся тыя, хто сапраўды хоча гэтым займацца і не чакае хуткіх грошай.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

## СКАРГІ НА РАБОТУ КАМУНАЛЬНІКАЎ

**На днях у Шуміліне прайшла прамая лінія з кіраўніком раёна Віктарам Гутаравым. На асабістым прыёме пабывала двое шумілінцаў.**

Першы заяўнік пацікавіўся будаўніцтвам водаадводнага канала ў мікрараёне СШ №2. Жыхара мікрараёна "Брыкету" хваляваў лёс прыватных агародаў. Справа палягала ў тым, што тут распрацавалі будаўнічую пляцоўку новых новых шматкватэрных дамоў. А к дамам, якія пабудуюць тут, пракапаюць водаканал. Ці не закране гэты канал агароды жыхароў? Гэта пытанне старшыня райвыканкама пераадрасаваў будаўнікам. Бо, як вядома, такія праекты павінны вырашацца ў комплексе, улічваючы інтарэсы ўсіх насельнікаў мікрараёна.

Другая заяўнік – жанчына з Шуміліна, таксама прасіла кіраўніка раёна не чапаць яе агарод па вуліцы Ляскавіцкай. Віктар Гутараў абяцаў пакінуць агарод пакуль што на 2020 год. Ёсць спадзяванні, што з цягам часу адпаведныя службы змогуць падабраць участк зямлі для агародніцтва ў іншым месцы.

Увогуле телефонных званкоў было шмат. Людзи званілі з весак: Крывога Сяла і Лескавіч, Каравайніцы, з горпасёлка Обалі і нават з горада Віцебска. Пытанні былі розныя, у асноўным насілі камунальны характар. А праблемы тычыліся рамонту дарогі (да Аўсееўскіх могілак) і адмосткаў каля дома, выдалення аварыйных дрэў каля дамоў. Яшчэ людзі скардзілся на недахопы адпаведных службаў у вымярэнні тлустасці малака, якое прымаецца ад насельніцтва. Хваляла людзей і неразбярыха з гандлёвым абслугоўваннем (з-за чарговай змены ўласніка магазіна).

**Ян Вайтовіч**

ГРАМАДСКАЯ БЯСПЕКА

## РАТАВАЛЬНІКІ АТРЫМАЛІ ЎЗНАГАРОДЫ

**У Шуміліне адбыўся ўрачысты сход, на якім ушанавалі лепшых работнікаў і ветэранаў пажарнай службы. А ўручэнне узнагарод шумілінскім ратавальнікам было прымеркавана да свайго прафесійнага свята.**

Па традыцыі, на святочнае мерапрыемства былі запрошаны старшыня раённай арганізацыі ветэранаў органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях "Ратавальнік" Мікалай Жукаў і старшыня раённай арганізацыі "Беларускага саюза афіцэраў" Валерый Жандараў.

Увесь асабовы састаў і ветэранаў службы з прафесійным святам павіншаваў начальнік аддзела Андрэй Сасновіч, пажадаў здароўя, сямейнага дабрабыту, спакойнай службы, кар'ернага росту, падзякаваў за плённую работу. Медалём "за бездакорную службу" 3 ступені быў узнагароджаны Аляксей Грыгор'еў.

Гучнымі апладысментамі ўхвалілі шумілінскія ратавальнікі навіну пра тое, што па выніках 2019 года Шумілінскі РАНС прызнаны лепшым у Віцебскай вобласці.

Напрыканцы мерапрыенства лепшыя работнікі і ветэраны пажарнай службы Шумілішчыны ў гэты дзень былі адзначаны граматамі, падзякамі, узнагароджаны нагрудными знакамі і юбілейнымі медалямі.

**У. Прылуцкі**

АДУКАЦЫЯ

## СПОНСАРЫ З "ТРАКТАРНАГА"

**МТЗ падарыў Шумілінскай раённай гімназіі абсталяванне на 10 тыс. рублёў.**

Шумілінскага раёна гімназію-інтэрнат, што ў вёсцы Лескавічы, надоечы наведала дэлегацыя ААТ «Менскі трактарны завод» на чале з намеснікам генеральнага дырэктара Андрэем Суслянковым. Ва ўрачыстай абстаноўцы шэфы перадалі сертыфікат на набыццё сучаснага абсталявання і інструментарыя для мадэрнізацыі класа тэхнічнай працы.

У спісе 44 пазіцыі, агульным коштам больш за 10 тыс. рублёў. Акрамя таго

*(працяг на стр. 2)*

БРАКАНЬЕРСТВА

## ЗАЛАТЫЯ ПЛОТКІ

**У мінулым 2019 годзе двое жыхароў нашага раёна былі прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за незаконную здабычу рыбы.**

Як патлумачыў расказвае старшы следчы раённага аддзела Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь Віктар Казлоўскі, незаконная здабыча рыбы тычыцца ўсіх відаў рыб і іншых водных жывёл, якія жывуць у вадаёмах раёна. Асабліва напружаным з'яўляецца вясновы перыяд, калі на тэрыторыі Беларусі ўстанаўліваюцца забароны на лоўлю рыб, за выключэннем аматарскага рыбалоўства.

Вось і ў траўні мінулага года ў час, калі дзейнічала забарона на лоўлю рыбы, пенсіянер з Дабеі на возеры Мошна вылавіў з дапамогай сеткі 21 кг рыбы. Была ўзбуджана крымінальная справа па факце незаконнай лоўлі рыбы, якая пацягнула нанясенне страт у асабліва буйных памерах. А самому пенсіянеру рыбалка браканьерскім спосабам абыйшлася ў занадта буйную суму грошай – амаль 26 тысяч рублёў!

Мінулай восенню была ўзбуджана яшчэ адна крымінальная справа. Паводле следчага Віктара Казлоўскага, пенсіянер лавіў сеткай рыбу на возеры Улазавічы, злавіў адну плотку. Аднак ужо ўлічваючы той выпадак, калі мужчына сёлета прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за незаконную лоўлю рыбы, была ўзбуджана крымінальная справа. Увогуле санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне аж да пазбаўлення волі на тэрмін да 6 год. Зараз вядзецца следства.

**Ян Вайтовіч**

АДУКАЦЫЯ

***(пачатак на стр. 1)***

навучэнцы-пераможцы спецыяльных конкурсаў па тэматыцы МТЗ атрымалі ад кіраўніцтва завода сувеніры і падзячныя лісты. Святочную атмасферу дапоўніла канцэртная праграма ў выкананні гімназістаў і самадзейнасці ДК МТЗ.

Супрацоўніцтва легендарнага прадпрыемства і сельскай гімназіі пачалося тры гады таму, калі дырэктар навучальнай установы Ларыса Маладзечкіна звярнулася на МТЗ з просьбай выдзеліць невялікі спісаны трактар. Няпроста было школе ўручную апрацоўваць 10 га сваёй зямлі.

Адказ не замарудзіў сябе чакаць. Напярэдадні 2017 года дэлегацыю гімназістаў – каля 40 чалавек – запрасілі ў сталіцу Беларусі, дзе хлопцы прынялі ўдзел у завадскім навагоднім свяце. А ў якасці падарунка ім уручылі новенькі «Беларус» 320-4М.

Праз год навагодні цуд зноў паўтарыўся. Чаговы аўтобус з Мінска даставіў гімназістаў на завод. У ліку падарункаў ад Дзеда Мароза гэтым разам хлопцы атрымалі вялікую інтэрактыўную дошку-мульцібогд, які ўключае ў сябе дысплей, кампутар і тэлевізар. Сёння гэта абсталяванне актыўна выкарыстоўваецца ў навучальным працэсе.

І ў канцы 2018 года клуб МТЗ не забыўся пра сваіх падшэфных. Інвентар інтэрната папоўнілі 19 электронных планшэтаў фірмы Lenovo. 3 таго часу ні адзін занятак па інфарматыцы тут не праходзіць без мабільных гаджэтаў.

Трактарабудаўнікі не толькі запрашаюць гімназістаў у Мінск, але і самі перыядычна наведваюць Лескавічы. Знаёмяцца з працай навучальнай установы, маюць зносіны з дзецьмі, вывучаюць патрэбы і патрэбы ўстановы. Падарункі, якія яны прывезлі на гэты раз, дазволяць стварыць аснову STEAM-цэнтра.

STEAM (S - science; T - technology; E - engineering; A - art; M -mathematics) – форма адукацыі, заснаваная на ўжыванні міждысцыплінарнага і прыкладнога навучання. На гэтай базе гімназісты не толькі будуць атрымліваць працоўныя навыкі, але і займуцца робататэхнікай, 3D-мадэляваннем, змогуць выконваць даследчыя праекты, выпускаць наглядныя дапаможнікі для навучальных дысцыплін і іншую прадукцыю.

**vitvesti.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННІ

# ГАРЭЛІ ДАМЫ, ЁСЦЬ АХВЯРЫ

**Труп мужчыны выявілі выратавальнікі пры тушэнні пажару ў прыватным жылым доме ў вёсцы Жданаўка Шумілінскага раёна.**

Інфармацыю аб узгаранні работнікі МНС атрымалі вечарам 26 студзеня, паведамляе афіцыйны сайт Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.

Падраздзялення МНС аператыўна прыбылі на месца здарэння. Двухкватэрны аднапавярховы дом гарэў адкрытым полымем.

Адна з кватэр была няжылая, а ў другой пражываў пенсіянер1954 года нараджэння. Калі пачаўся пажар, ён знаходзіўся ў доме. Яго цела было выяўлена ратавальнікамі ў прапале падлогі ў склепе на глыбіні 1,5 м у пакоі, пад пластом канструкцый, якія абрынуліся ў выніку пажару.

Пажар знішчыў у доме дах, паталочнае перакрыцце, маёмасць. Пашкоджаны сцены.

Праводзіцца праверка. Прычына пажару высвятляецца. Асноўныя версіі – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні, парушэнне правілаў эксплуатацыі электрасетак і электраабсталявання.

**У вёсцы Полькавічы згарэў дом. 80-гадовую гаспадыню і яе сына-інваліда выратавалі суседзі.**

Сігнал аб пажары дома па вуліцы Маладзёжнай у вёсцы Полькавічы паступіў у службу ратавання ў 14.16. Па прыбыцці да месца падраздзяленняў РАНС назіралася адкрытае гарэнне дома і абрушванне даху.

81-гадовая гаспадыня пражывала сумесна з 50-гадовым сынам, інвалідам першай групы. На момант узнікнення пажару абодва знаходзіліся ў доме, да прыбыцця ратавальнікаў іх з памяшкання вывелі суседзі, якія ўбачылі пажар.

Агнём знішчаны дах, столевае перакрыцце, маёмасць, пашкоджаны сцены. Дом для далейшага пражывання непрыдатны, гаспадыня з сынам будуць пражываць у дачкі ў гэтым жа населеным пункце.

**Сяржук Крупскі**
**паводле матэрыялаў МНС**

СПОРТ

# ГАННА СОЛА – ЧАЦВЁРТАЯ

**Беларуская біятланістка Ганна Сола з Шуміліна заняла 4-е месца ў жаночым спрынце.**

15 студзеня ў нямецкім Рупольдынгу пачаўся пяты этап Кубка свету па біятлоне. Сёння прайшоў жаночы спрынт на 7,5 км. Беларускія біятланісткі пасля ўдалага этапу ў Оберхофе зноў парадавалі балельшчыкаў добрымі вынікамі.

Беларуска Ганна Сола заняла ў гонцы чацвёртае месца. Нашая суайчынніца закрыла ўсе 10 мішэняў. Нарвежцы Тырыл Экхаф яна саступіла 50,1 секунды. Сола паказала лепшы вынік у кар'еры – да гэтага яе асабісты рэкорд быў роўны 30-га месца ў спрынце ў Хохфільцэне.

Другое месца заняла прадстаўніца Фінляндыі Ганна Оберг, на трэцім апынулася італьянка Даратэя Вірэр.

З іншых прадстаўніц Беларусі Алена Кручынкіна фінішавала 16-й, Ірына Крыўко – 49-й.

**euroradio.fm**

ПАСЛУГІ І СЕРВІС

# «ТРАНЗІТКА» ЯК ПЕРАДАВАЯ

**Што ні кажы, а пошта – твар горада. А калі гаворка ідзе пра невялікім райцэнтры, актуальнасць і важнасць яе паслуг асабліва відавочная.**

У жніўні гэтага года пасля мадэрнізацыі адкрылася аддзяленне паштовай сувязі Шуміліна-2. І жыхары, і самі работнікі за гэты час ужо паспелі ацаніць як клас абслугоўвання, так і камфортнасць працы ў новым фармаце.

**Ледзь святло – ужо на нагах**

– Раніцай самы гарачы час, – прызналася намеснік начальніка АСС Шуміліна-2 Светлана Щелкунова, ні на хвіліну не адрываючыся ад працы. – Зараз мне трэба ўсё гэта размеркаваць паміж паштальёнамі і адправіць іх па маршрутах, а вечарам, адпаведна, падвесці вынікі.

Святлана працуе на пошце шосты год. Вучачыся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі сувязі, практыку праходзіла ў родным Шуміліна. Працы з людзьмі трохі пабойвалася, але цяпер зразумела, што спецыяліст знаходзіцца на сваім месцы, на якім, прызналася, збіраецца затрымацца надоўга.

**«Транзітка» як перадавая**

Аддзел сартавання (паштальёны называюць яго «транзіткай») – «перадавая» паштовага аддзялення. Менавіта адсюль пачынаецца праца не толькі цэнтральнага, але і ўсіх астатніх аддзяленняў раёна. Уключаны транспарцёр, разгружаецца карэспандэнцыя і тавары, кожны з работнікаў дзейнічае па даўно адпрацаваным плане.

– Спыняцца некалі – працы заўсёды шмат, – кажа старажыл гэтага аддзялення аператар сувязі Іна Мацюшкова. – А ў канцы месяца – асабліва. Людзі імкнуцца да 25 чысла разлічыцца з плацяжамі, атрымаць пенсіі.

Мацюшкова не толькі прымае і сартуе пошту, але яшчэ і абслугоўвае аграгарадок Светласельскі. Калегі яе шануюць як адказнага работніка, які здольны якасна і хутка выконваць практычна любую аперацыю на ўчастку. Назіраю, як Іна проста вокамгненна раскладвае газеты па стосах. Мне стала цікава, ці атрымаецца ў мяне так жа. Не атрымалася.

20 гадоў працы за плячыма і ў аператара па суправаджэнні мотадастаўкі Алены Кібісава. Яна абслугоўвае Обальскі маршрут – больш за сотню адрасоў.

– Вядома, я ведаю кожнага свайго кліента, іх запыты і жадання, – кажа спецыяліст, які акрамя пенсій і карэспандэнцыі дастаўляе сваім падапечным розныя тавары.

Цікава, што зараз можна ў любым сельскім аддзяленні сувязі зрабіць заказ на тавар. Пацвярджаюць гэта і работнікі двух перасоўных паштовых аддзяленняў – Тацьяна Літвін і Валянціна Прыстаўка.

**Палкоўніку ніхто не піша?**

Умовы працы вызначае час. Яно ж дыктуе фармат. Абываецелю, мне ў тым ліку, здаецца, што такая паслуга, як дастаўка лістоў, напросту рудымент, хіба што часам запатрабаваны.

– Пра што вы кажаце, – абвяргае мае здагадкі Святлана Щелкунова, – лістоў становіцца больш. Да прыкладу, сёння адзін паштальён нясе іх 45 – і гэта толькі людзям, а яшчэ бо шмат карэспандэнцыі прыходзіць на адрас арганізацый.

– А бывае, што лісты губляюцца? – цікаўлюся я.

– Не, што вы! – кажа Святлана. – Уся якая ўваходзіць карэспандэнцыя фіксуецца ў спецыяльна праграме «сачэння». У канцы дня ўсе рэшткі – лісты, даставіць якія не ўдалося – таксама ўносяцца ў праграму. Нават калі раптам ліст прыйшоў не па адрасе, мы яго перанакіроўваюць, і яно абавязкова дойдзе да адрасата.

Ёсць кліенты, якія заключаюць дагаворы на экспрэс-дастаўку. Як правіла, гэта прадпрымальнікі, якія часта карыстаюцца дадзенай паслугай і хочуць зэканоміць свой час.

І наогул, праца пошты цалкам камп'ютэрызавана. Усе аперацыі праводзяцца праз спецыяльныя праграмы. Гэта не толькі павышае аператыўнасць, але і ўплывае на дакладнасць, бездакорнасць службы. Сапраўды, наведвальнікі, з якімі мне ўдалося паразмаўляць, не ўзгадалі выпадкаў, калі былі незадаволеныя паслугамі гэтага паштовага аддзялення. Таксама ўсе адзначалі, што пасля рамонту на пошце стала асабліва прыемна абслугоўвацца. І хутка - замест трох працуюць чатыры аперацыйных вокны. Работнікі аддзялення, да паслуг якіх цяпер – камфартабельныя кабінеты з новенькай мэбляй, пакой для прыёму ежы і нават душ таксама не могуць нарадавацца новых умоў працы.

**Кадры па-ранейшаму выра-шаюць усё.**

Усе спецыялісты, з якімі мне ўдалося пазнаёміцца ў гэты дзень, дакладна ведаюць сваю працу. Пасылкамі з Кітая займалася ў гэты дзень аператар Людміла Ляхновіч. Іх, дарэчы, з кожным разам становіцца ўўсё больш. Як і наогул пасылак. Інтэрнэт-крамы развіваюцца, людзі ўсё часцей заказваюць тавар па пошце.

Сваю сталую кліентуру мае прызнаны карыфей паштовай службы, аператар Таццяна Баравікова. Многія падыходзяць менавіта да яе акенца. Да таго ж Таццяна ведае літаральна ўсіх мясцовых жыхароў і заўсёды дапаможа, калі трэба ўдакладніць прозвішча або адрас кліента.

Перш чым даверыць выкананне той ці іншай аперацыі новым работнікам, іх навучаюць, трэніруюць і толькі потым адпускаюць у самастойнае «плаванне».

За месяц праз паштовае аддзяленне праходзіць больш за 30 тысяч перыядычных выданняў, парадку 1700 лістоў і пасылак знаходзяць сваіх адрасатаў. Нягледзячы на тое, што ў зале працуе інфакіёск, і многія аперацыі можна здзейсніць з яго дапамогай, людзі ўсё роўна ўстаюць у чаргу. Нават маладыя, якія, здавалася б, даўно на «ты» з новымі тэхналогіямі. Супрацоўнікі кансультуюць наведвальнікаў, спадзеючыся, што аматараў электронных аперацый стане больш.

І напрыканцы. Што ўжо там казаць, пошта сёння не тая, што была пару дзесяцігоддзяў таму. Сёння гэта выразна працуе комплекс, які аказвае шырокі спектр паслуг. А на такой пошце, як у Шуміліне, і працаваць і абслугоўвацца прыемна.

**vitbichi.by**
**пераклад з расейскай рэдактара**
**Алесь Шумскі**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ГУАНА ПА ЎНУТРЫРАСІЙСКІХ ЦЭНАХ

**Рабіць цукерку з гаўна нескладана, але пры захаванні як мінімум дзвюх умоваў. Першая — аб'ектыўная: яго павінна быць шмат, і хтосьці на яго павінен мець манаполію. Другая — суб'ектыўная, звязаная з раздзелам лінгвістыкі, які вывучае паходжанне словаў — гэта значыць, з этымалогіяй.**




…Для масавай вытворчасці цукерак слова з падобнага радаводу малапрыдатнае. Іншая справа, калі каравяк замяніць на памёт марскіх птушак і падабраць для яго прыгожае замежнае слова, напрыклад, «гуана» (ад іспанскага «guano»). Такая замена дазваляе бескарыснае для айчынных шыротаў слова напоўніць карысным, з пункту гледжання сельскай гаспадаркі, зместам. У прыватнасці, значнай колькасцю злучэнняў азоту (да 9%) і фосфару (каля 13%)…

**Паветра скончыцца раней за нафту**

«Каменны век скончыўся не таму, што скончыліся камяні», — справядліва заўважыў у 2000 годзе міністр нафтавай прамысловасці Саудаўскай Аравіі шэйх Закі Яман. Па гэтай жа прычыне скончыцца і стагоддзе вуглевадародаў. У якім канкрэтна годзе рост спажывання нафты зменіцца зніжэннем і што паслужыць таму прычынай — ветракі або сонечныя батарэі, — сёння сказаць складана. Сярод экспертаў няма адзінага меркавання, але ў тым, што людзі сярэдняга веку да гэтай падзеі дажывуць, сумнявацца не даводзіцца.

Калі ў 1970-х гадах нафта забяспечвала 50% сусветнага попыту на энергарэсурсы, дык сёння — менш за 30%. Нарвегія, лідар па колькасці электрамабіляў (24% усяго аўтапарка), абвясціла план забароны продажу аўтамабіляў без электрарухавіка з 2025 года, а Германія — з 2030-га. Францыя і Вялікабрытанія паставілі сваёй мэтай поўную электрыфікацыю дарожнага транспарту да 2040 года. Спіс будучых непрыемнасцяў для нафтавых каралёў лёгка можна працягнуць….

Варта адзначыць яшчэ адну лакальную падзею: у бліжэйшыя некалькі гадоў праз натуральныя прычыны — выпрацоўка старых радовішчаў, нізкі ўзровень інвестыцый у геолагаразведцы і адсутнасць сучасных тэхналогій — у Расіі пачнецца падзенне здабычы нафты.

**Не ў каня корм**

Чвэрць стагоддзя гісторыі беларускай мадэлі — гэта чвэрць стагоддзя бесперапынных спробаў стаць у адзін шэраг з нафтавымі дзяржавамі, якія атрымліваюць даход не за кошт працы грамадзян, а за кошт прыроднай рэнты. Прывяду цытату з тэксту паслання, з якім адзіны палітык (АП) звярнуўся да народа і дэпутатаў у 2011 годзе: «Мне здаецца, што нафта ў нас усё ж такі ёсць. А калі ёсць нафта, то не можа быць, каб не прарвала газам. Вучонага прэм'ера (Мясніковіча. — Рэд.) мы ўзялі, акадэміка. Ён адчувае адказнасць і будзе глядзець, што ў нас там робіцца пад тоўшчай зямлі. Не можа быць такога, каб чалавек шукаў і не знайшоў».

Аказваецца, можа. Нават такі рэдкі сплаў станоўчых якасцяў, зафіксаваны АП у адной асобе (вучоны, акадэмік, які адчувае адказнасць), спадзяванняў не спраўдзіў: газам не прарвала. Што да нафты, то яе здабыча ў Беларусі топчацца на месцы на працягу ўжо многіх гадоў: калі ў 2011 годзе здабылі 1 681 000 тон, то ў 2018 годзе — 1 670 000.

«Вучоным бывае пудзель», — неяк справядліва заўважыў сваім калегам вялікі фізік Леў Ландау. Сябе ж нобелеўскі лаўрэат лічыў навуковым работнікам. Ён не прэтэндаваў на здольнасць глядзець за тым, што ў нас там робіцца пад тоўшчай зямлі. Яго цікавілі працэсы на ўзроўні мікрачасцін, у чым ён быў паспяховы.

З 2011 па 2018 год колькасць беларускіх ландаў, што займаліся навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі, скарацілася на 12,1% (з 31 194 да 27 411 чалавек), а падача заявак на патэнтавыя вынаходніцтвы — на 70,5% (з 1871 да 547)! Пры гэтым фінансаванне навукі са сродкаў рэспубліканскага бюджэту паваліўся з 0,25% да 0,39% ВУП. Корм атрымаўся не ў каня. Вось такая адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі!..

Беларуская мадэль мае патрэбу ў прамых датацыях, а не ў патэнтах. Будучы датацыі — будзе і магчымасць у беларускіх спажыўцоў набываць апошнія мадэлі электронных прыбамбасаў у масавых колькасцях. У сваю чаргу, датацыі дазваляюць беларускім бізнесоўцам імпартаваць абсталяванне, з дапамогай якога толькі і магчымы пераход да новых пакаленняў тэлефаніі. Таму барацьба за захаванне расійскіх датацый была і застаецца краевугольным каменем палітыкі АП.

**Не дзеля карысці, а выключна дзеля роўных умоваў**

4 снежня 2019 года на сайце Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў раздзеле «Аналітыка» быў змешчаны артыкул «Палова беларусаў выступае не за саюзніцкія, а за партнёрскія адносіны з Расіяй». Гэта наш «адказ Керзану» на даследаванне Цэнтра прасторавага аналізу міжнародных адносін МДІМА, што было апублікаванае ў лістападзе.

Паводле даследаванняў маскоўскіх сацыёлагаў, больш за палову беларусаў (57,6%) выказаліся за саюзніцкія адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, а каля траціны (31,8%) — за партнёрскія (агулам — амаль 90%).

Расійскай сацыялогіі беларусы супрацьпаставілі сваю: «Паводле даследавання 2019 года, 49,9% грамадзян краіны лічаць, што Беларусь павінна быць незалежнай дзяржавай і будаваць свае адносіны з Расіяй на аснове міжнародных дамоваў (што можна класіфікаваць як „партнёрскія адносіны"). Пры гэтым 36,1% рэспандэнтаў лічаць, што дзве краіны павінны ўзаемадзейнічаць адна з адной па прынцыпе раўнапраўнага саюза са стварэннем наднацыянальных органаў кіравання („саюзніцкія адносіны"), а колькасць прыхільнікаў уваходжання Беларусі ў склад Расіі ў 2019 года склала толькі 7,7%».

Зразумець адрозненні ў выніках апытанняў няпроста, бо прыведзеныя працэнты атрыманыя пры адказах на розныя пытанні. Адзін прыклад: падтрымка саюзніцкіх адносін не раўназначная жаданню ўваходжання ў склад Расіі. Хіба АП выступае супраць Саюзнай дзяржавы? Але дзе і калі ён выказваўся за дэнансацыю саюзніцкай дамовы? Наадварот, ён рэгулярна выступае за яе падтрымку.

Безумоўна, большасць беларусаў хоча жыць у Саюзнай дзяржаве, якая забяспечвала б нам «роўныя ўмовы», г.зн. унутрырасійскія цэны на расійскае гуана, не прэтэндуючы пры гэтым на фарміраванне наддзяржаўных органаў. Але ж у такой дзяржаве мы жывем ужо 20 гадоў.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# «НАС РАКОМ ПОСТАВИЛИ»

**Свой налоговый маневр Москва затеяла, чтобы надавить на Беларусь, заявил Александр Лукашенко. «Зачем надавить, догадайтесь с трех раз», — добавил он. Впрочем, сам же подсказал ответ, дав понять, что Владимир Путин вел разговор об инкорпорации.**

«Я не могу вас предать и растворить Беларусь, пусть даже в нашей братской России… В переговорах с президентом [России] я четко и однозначно полтора-два года тому назад сказал: этого в Беларуси не может сделать никто», — сообщил Лукашенко 24 января, общаясь с работниками завода газетной бумаги в Шклове.

**В Кремле холодные головы**

Зафиксируем хронологию: полтора-два года назад — это значит еще до «ультиматума Медведева». Бывший российский премьер свое (а точнее, кремлевское) условие — дальнейшая экономическая поддержка только при условии продвинутой, как было сказано, интеграции — поставил, напомню, в декабре 2018-го.

Таким образом, тот ультиматум был продуман холодными головами, тщательно подготовлен и, скорее всего, является частью долговременной стратегии Кремля, о которой говорят белорусские аналитики (Арсений Сивицкий и др.): если не поглотить, то как минимум покрепче привязать к себе Беларусь, чтобы не ушла, как Украина.

И эту стратегию Москва взялась реализовывать очень методично, упорно. Смотрите: хотя Лукашенко еще полтора-два года назад вроде бы категорично сказал «нет» поглощению, уже после этого возникла токсичная 31-я дорожная карта «углубления интеграции». Она предусматривает единую валюту и наднациональные органы, то есть, по мнению экспертов, является бомбой под суверенитет.

Да, 31-я карта пока отодвинута, но Кремль держит ее в рукаве. Расчет на то, что удастся измотать Беларусь, истощить ресурс сопротивления «углубленной интеграции».

Лукашенко сам перечислил в Шклове элементы этого давления. В частности, заявил, что «закрывают нам рынок по продуктам питания. Притом нагло, беспардонно, без причины. Чтобы наклонить, унизить». И что ценник на нефть задрали «в том числе и по политическим мотивам, в том числе из-за "недоговороспособности" батьки Лукашенко»…

**«Нас кинули»**

Нормальные отношения в представлении белорусского лидера — это отношения по понятиям. Сегодня он заявил: «Что касается газа, нас кинули — не вывели нас на равные цены». Мол, такая договоренность была при продаже «Белтрансгаза», которая завершилась в 2011 году.

«Прошло время — забыли. Недавно я разговаривал с президентом России. Я ему прямо сказал: а я это помню», — заявил Лукашенко. Да, но зафиксирована ли договоренность документально? Похоже, нет. Иначе в газовом вопросе не пришлось бы апеллировать, как это было недавно, к 75-летию Великой Победы. Факт совместного гниения прадедов в окопах вряд ли подействует на подсчеты технократов Мишустина.

Действительно, долгое время между Москвой и Минском действовал негласный контракт: экономические льготы в обмен на роль плацдарма, обеспечение ПВО, охраны границы, транзита и пр. Но последние годы Кремль стал в одностороннем порядке этот контракт пересматривать, стремясь а) удешевить затраты на союзника и б) принудить его к уступкам.

Лукашенко возмущается, даже (как мы узнали из интервью «Эху Москвы») передал Путину список белорусских услуг Москве с их стоимостью. Но не факт, что тот возьмет во внимание такой неформальный прайс.

С чего бы Москве особо откатывать? Во-первых, она разместила свои войска на собственной западной границе, построила новые РЛС, тем самым ослабив оборонную зависимость от Беларуси. Во-вторых, проложила и продолжает прокладывать трубы для прокачки нефти и газа в обход Беларуси: БТС-1, БТС-2, «Северный поток» и др. Так что и транзитное значение Беларуси ослабевает.

**«По понятиям» уже не получается**

Наконец, в-третьих, в Москве, судя по всему, следуют поговорке «а куда он денется с подводной лодки?» Правда, Лукашенко намекнул сегодня на возможную «ответку», вспомнив, как во время одной из прежних ссор белорусы «начали их [российские] автомобили проверять под Смоленском. И очередь выстроилась по железной дороге и автотранспорта до Кремля».

Но настолько обострять сюжет для белорусского руководителя очень рискованно. Особенно перед президентскими выборами. Еще менее вероятно, что он перекроет транзит российской нефти в Европу или откажется продлевать аренду военных объектов России под Ганцевичами и Вилейкой.

К слову, за эту аренду еще Борис Ельцин когда-то скостил Минску изрядный газовый долг. Плюс белорусские военные получили возможность упражняться на российских полигонах (у нас с таким размахом не постреляешь).

Все это — элементы тех самых мутных, запутанных отношений по понятиям. Теперь они перестают работать. Волей-неволей надо выходить на прозрачные рыночные отношения на строгой договорной основе, о чем критики режима Лукашенко говорили давно.

***(працяг на стар. 4)***

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

**Нужна стратегия, как жить в новой реальности**

Между тем глава государства заверил шкловчан, что альтернативные поставки нефти в Беларусь — это не блеф.

Действительно, танкер с норвежской нефтью для новополоцкого «Нафтана» уже разгружается в Клайпеде. Ведутся нефтяные переговоры с Азербайджаном, Казахстаном и другими партнерами. Однако альтернативная нефть дороже. Да и российскую в 2024 году придется покупать по мировым ценам.

Иначе говоря, в любом случае нефтепереработка перестает быть курицей, несущей для белорусского бюджета золотые яйца. Нужно перестраивать экономику, менять ее структуру, искать новые драйверы роста.

Пока из уст белорусского руководства мы слышим много обид на Россию, но не слышим внятной программы, как Беларуси выживать без привычной подпитки с востока.

…Как грубо выразился Лукашенко в Шклове, «нас раком поставили по углеводородам». Вот вам и финал братства.

Идти в империю белорусскому вождю, как и его заядлым внутренним оппонентам, явно не хочется. Что он образно подтвердил в Шклове: «Они [руководство России] просто просчитались. Они думали, что (утрируя, скажу) дадут мне ключи от склада, и я побегу в Россию, тоже буду богатым, пушистым, белым, красивым... Не надо».

Что ж, тогда нужно отвязываться от иллюзий рентной экономики и перестраивать белорусскую модель на новый лад. Но насколько к этому готов консервативный лидер — вопрос открытый.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**naviny.by**

ІНТЭГРАЦЫЯ

# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД «ГІБРЫДНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ»?

**Можна меркаваць, што Масква ў блізкай пэрспэктыве паспрабуе рэалізаваць сцэнар «гібрыднай інтэграцыі», павялічыць расейскі ўплыў на Беларусь, выкарыстоўваючы новыя мэтады і магчымасьці.**

Плянаваныя зьмены ў расейскай Канстытуцыі сьведчаць пра тое, што пытаньне транзыту ўлады там будзе вырашацца без задзейнічаньня Беларусі. Але ці азначае гэта, што цяпер Масква адчэпіцца ад свайго саюзьніка і закрые тэму інтэграцыі? Думаю, не. Проста ў гэтага праекту цяпер будуць іншыя функцыі.

Можна меркаваць, што Масква паспрабуе рэалізаваць сцэнар «гібрыднай інтэграцыі». То бок рознымі спосабамі павялічыць расейскі ўплыў на Беларусь, падвысіць залежнасьць краіны ад РФ пры фармальным захаваньні беларускага сувэрэнітэту.Прыгэтымвыкарыстоўваючы новыя мэтады і магчымасьці — з улікам сучасных геапалітычных, тэхналягічных і інфармацыйных мэханізмаў.

Найперш гэта будзе тычыцца эканомікі. Доўгі час беларуска-расейскія адносіны разьвіваліся паводле схемы «танныя газ і нафта ў абмен на пацалункі». Зь сьнежня 2018 году, з моманту вядомага «ўльтыматуму Мядзьведзева», па студзень 2020 году Расея рэалізоўвала адносна Беларусі схему «эканамічныя прэфэрэнцыі ў абмен на незалежнасьць».

А цяпер, можна выказаць здагадку, стратэгія Масквы будзе такая: «эканамічныя прэфэрэнцыі ў абмен на беларускую маёмасьць, актыўнае пранікненьне ў Беларусь расейскага капіталу». Маўляў, хочаце нізкія цэны на газ і нафту? Калі ласка, але ў абмен на продаж расейскім кампаніям двух НПЗ, газаразьмеркавальнай сеткі ўнутры Беларусі.

Няма чым плаціць даўгі, просіце новыя крэдыты? Калі ласка, можам узяць не грашыма, а натурай, то бок маёмасьцю. Напрыклад, «Беларуськаліем». Ці беларускімі дзяржаўнымі банкамі.

Хочаце, каб пастаўкі беларускага харчаваньня на расейскі рынак адбываліся безь перашкод, а то і на льготных умовах? Калі ласка, але прадайце малочныя заводы кампаніям з Расеі.

Дарэчы, пра банкі. У Беларусі функцыянуюць сем «дачок» расейскіх банкаў (БелВЭБ, ВТБ, «Белгазпрамбанк», БПС-Сбербанк" і інш.) Яны могуць прапанаваць беларускім дзяржпрадпрыемствам ільготныя ўмовы крэдытаваньня і тым самым пасадзіць іх на кручок. Яны будуць мець поўную інфармацыю пра іх эканамічны стан з усімі наступствамі.

Тое самае і ў вайсковай сфэры. Хочаце атрымаць новае расейскае ўзбраеньне? Толькі ў абмен на расейскую вайсковую базу пад Бабруйскам.

Тут справа можа і да палітыкі дайсьці. У пуцінскай Расеі вялікі досьвед стварэньня шмат у якіх краінах прарасейскіх арганізацый. Асабліва гэта заўважна выявілася ў дзяржавах Эўразьвязу. Прычым на гэтую справу Масква не шкадуе грошай. Уявіце сабе зьяўленьне тут «гібрыднай апазыцыі», то бок прарасейскай партыі ці грамадзкай арганізацыі зь вялікімі грашыма. І будзе складана патлумачыць расейскай грамадзкасьці, чаму Лукашэнка адмаўляецца зарэгістраваць партыю, якая выступае за дружбу, саюз і інтэграцыю з Расеяй.

Асобны кірунак — інфармацыйная сфэра. Тут у Расеі вялікія магчымасьці. І фэдэральныя тэлеканалы, і беларускія рэгіянальныя інтэрнэт-мэдыі, якія мадэруюцца з РФ, і расейская «фабрыка троляў», і шмат іншага.

А яшчэ Расея можа рэалізаваць данбаскі сцэнар у пляне прапановы льготных умоваў атрыманьня беларусамі расейскага грамадзянства.

Праблема ў тым, што ў межах існай беларускай сацыяльнай мадэлі, дзейнага палітычнага рэжыму супрацьстаяць такой «гібрыднай інтэграцыі» маларэальна. Бо Лукашэнка ў сваёй палітыцы кіруецца ня столькі задачай умацаваньня беларускай дзяржаўнасьці, колькі мэтай захаваньня ўласнай улады. І гэтыя дзьве задачы шмат у чым не супадаюць.

Сама беларуская мадэль у значнай ступені грунтуецца на расейскіх эканамічных прэфэрэнцыях. І каб ад іх адмовіцца, трэба мяняць эканамічную сыстэму. А гэтая сыстэма аптымальная для ўтрыманьня Лукашэнкам аднаасобнай улады.

Дзеля мацаваньня незалежнасьці варта было б мацаваць беларускую нацыянальную ідэнтычнасьць, дыстанцыявацца ад каляніяльнай спадчыны, як тое прапануе апазыцыя. Але праблема ў тым, што Лукашэнка бачыць у апазыцыі большую пагрозу сваёй уладзе, чым у Расеі. У змаганьні з апазыцыяй Масква, хутчэй, ягоная саюзьніца.

**Валера Карбалевіч**
**https://www.svaboda.org**

ВЕРТЫКАЛЬ

# СПАСУТ ЛИ ЛУКАШЕНКО ПРОФСОЮЗЫ И КОМСОМОЛ?

**…Александр Лукашенко не намерен отказываться от Всебелорусских народных собраний, функцию которых многие обозреватели считают ритуальной. На встрече с председателем Федерации профсоюзов Беларуси Михаилом Ордой 20 января глава государства анонсировал «политически важный год: президентские выборы, съезд народа Беларуси — Всебелорусское народное собрание, которое выработает стратегию на перспективу».**

Из уст главы государства также прозвучало: «…Не дай бог какие-то трудные времена, нам понадобятся и профсоюзы, и комсомол (по-старому говоря) — наша молодежная организация, все организации будут задействованы».

**Чуда не случилось. Экономику Беларуси подкосили нефтяные проблемы**

За прошлый год ВВП вырос только на 1,2%, при том что власти прогнозировали прирост в 4%. Прогнозы Всемирного банка куда точнее. Его аналитики предполагают, что в нынешнем году ВВП Беларуси увеличится на 0,9%, а в 2021-м и 2022-м прирост будет только по полпроцента. Считай, стагнация, топтание на месте.

На деле все может оказаться еще хуже из-за того, что прижала Россия. Сейчас из-за нефтяных терок с ней белорусские НПЗ на подсосе, приостановлен экспорт нефтепродуктов, доходы от которого долгие годы очень весомо пополняли бюджет. И нет оснований надеяться, что Москва сильно уступит по нефти, газу и другим спорным вопросам.

Короче, даже относительно скромные планы властей на 2020 год (прирост ВВП на 2,8%) уже вызывают большие сомнения.

Москва же прижала, требуя «углубления интеграции», чреватого потерей кусков суверенитета. А поскольку расставаться с безраздельной властью над страной Лукашенко очевидно не намерен, то, по идее, он должен объяснить подчиненным и народу, какой видит стратегию выживания Беларуси в условиях, когда российский грант будет стремиться к нулю…

**Пятилетки проваливаются**

Да, формально на этих собраниях утверждаются программы социально-экономического развития страны — контуры белорусских пятилеток (тоже калька с советского планирования). Де-факто делегаты лишь дружно поднимают руки за разработки чиновников, так что пропагандистские разглагольствования о воле народа в этом контексте вызывают иронию.

Но еще печальнее то, что сами пятилетки регулярно проваливаются. Один пример, чтобы сильно не грузить цифрами: на IV Всебелорусском народном собрании в декабре 2010 года президент пообещал через пять лет среднюю зарплату в тысячу долларов. На деле в конце 2015-го она оказалась в районе 400 долларов, то есть упала даже по сравнению с концом 2010-го, когда достигла 530 долларов. Да и сейчас средняя зарплата (1113,1 рубля в ноябре прошлого года) в эквиваленте очень далека от обещанной десятилетие назад сказочной цифры.

Перед выборами 2015 года Лукашенко, вопреки обыкновению, даже не стал проводить такое собрание (хвалиться было совсем нечем), и комментаторы решили было, что традиция себя изжила. Но V Всебелорусское собрание все же прошло постфактум, в июне 2016-го.

**Пристрастие к советским ритуалам удивляет**

Тем самым официальный лидер лишний раз подчеркнул свою приверженность ритуалам а-ля Советский Союз. Вообще его пристрастие к советским матрицам удивляет. Они ведь явно бесполезны. А Лукашенко — прагматик.

Но при этом он создал, например, идеологическую вертикаль. Целая армия штатных идеологов сидит на хороших окладах, при том что сам президент признается: ничего путного в плане идеологии придворные мудрецы так и не придумали. Ну разве что идеологи контролируют политическую лояльность. Однако если она начнет испаряться, то они не спасут дело.

Далее, Лукашенко создал БРСМ и сам любовно называет его комсомолом. Хотя наверняка хорошо помнит, как выродился советский комсомол — от лихих рубак и самоотверженных энтузиастов в духе Павки Корчагина до унылых чернильных душ позднего застоя. В конце горбачевской перестройки комсомольские боссы дружно слиняли в предусмотрительно выпестованные под крышей своей организации коммерческие структуры.

Надежды белорусского руководителя на то, что в трудные для него времена официальные профсоюзы и БРСМ, этот комсомол 2.0, грудью встанут на защиту режима и его вождя, вызывают улыбку.

Автор этих строк, как и президент Беларуси, хорошо помнит развал Советского Союза. Который произошел, кстати, тоже из-за экономической несостоятельности властей, а не по злой воле собравшихся в Беловежской пуще Ельцина, Шушкевича да Кравчука.

Так вот не высыпали тогда коммунисты, комсомольцы, члены профсоюзов и прочих многочисленных псевдообщественных структур на улицы защищать державу, на которой в одночасье был поставлен крест. Потому что тот строй был безнадежно дискредитирован…

**Система дороже развития**

Ну, а пока на очередном Всебелорусском собрании (его, скорее всего, проведут перед президентскими выборами, дедлайн которых — конец августа) благонадежная публика встретит аплодисментами любую речь вождя.

При этом очень сомнительно, что будет презентована действительно новаторская программа, как перестраивать экономику, менять модель, из которой уже выжаты все соки, и выживать в условиях сокращения российских субсидий, противостояния «гибридной интеграции».

Лукашенко раз за разом повторяет, что ничего ломать не собирается. На самом деле у него очевидно нет идеи развития. И печальнее всего, что он ее даже не ищет, не пытается нащупать.

Все просто: любой сильный проект развития — здесь фобии официального лидера отнюдь не беспочвенны — неизбежно расшатает его систему. А она ему дороже.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**«БЕЛАПАН»**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.01.2020 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.